
У нумары: ХАТНІЯ РАЗМОВЫ  ШКОЛА  Dowidzenia, Profesorze


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 2 (515) ГОД XI 9 СТУДЗЕНЯ 1966 г. ЦАНА 60 гр.


Перадз'ездаўская трыбуна

## Толькі гурток

З'езд БГКТ, які адбудзецца ў лютым, мае ўнесці папраўкі ў статут і ацаніць дасягненні за 10 год існавання таварыства, і на гэтай базе апрацаваць пастулаты далейшай працы, каб атрымаць большыя эфекты ў будучыні. Таму і мне хочацца дадаць некалькі слоў у дыскусію, якая ідзе на старонках «Нівы». Лічу, што калектыўнае наведванне некалькіх гурткоў дасць добрыя вынікі. Лічу, што галоўная мэта гурткоў і ўсяго таварыства — гэта падтрымліванне і распаўсюджванне беларускай культуры і асветы ў Польшчы, і ў гэтым не можа заступіць гуртка ніводная арганізацыя на вёсцы. На маю думку для выканання гэтай мэты гурток таварыства і яго Галоўнае праўленне павінны супрацоўнічаць з усімі арганізацыямі ў беларускім асяроддзі і старацца да гэтай працы ўцягнуць гэтыя арганізацыі. Тут вынікае супрацоўніцтва з такімі арганізацыямі, як: ЗМВ, гурткі вясковых гаспадынь, Лок, сельскагаспадарчыя гурткі, партыйныя арганізацыі. Супольнымі сіламі арганізаваць аматарскія калектывы, фэстыны, культурныя забавы і розныя мерапрыемствы. Да другой мэты можна аднесці мабілізацыю беларускага насельніцтва да будаўніцтва сацыялізма ў Польшчы, да чаго ў большасці беларусы прычыніліся ў час паўстання народнай улады ў Польшчы, бо гэта блізкае сэрцу беларусаў, якія добра памятаюць часы санацыі, калі Заходняя Беларусь пад Польшчай была на правах калёніі. Таксама і ўмацаванне вузаў брацкага сужыцця беларускага і польскага насельніцтва і паказванне традыцыі гэтага сужыцця. Часам гэта не выступае так востра ў кожнай мясцовасці, але трэба ведаць, што дзе мы не працуем, там працуе вораг. Тут патрэбна ўмелая праца гуртка, а асабліва вядомых членаў яго.

Трэба прапагаваць інтэрнацыяналізм і здаровы народны патрыятызм. Ці працу гурткоў і наогул БГКТ у беларускім асяроддзі могуць замяніць іншыя арганізацыі? Ні ў якім выпадку, не.

Я са свайго боку прапаную, каб лепш наладжвалася сувязь паміж існуючымі арганізацыямі, радамі нарадовымі ўвесці ў статут папраўку, што дзе ёсць на тэрыторыі грамадскай рады тры гурткі, то выбраць грамадскія камітэты БГКТ. Гэтым, здаецца мне, выпрацоўвалася б ініцыятыва на месцы, спаборніцтва, а гэтым самым амбіцыя лепшай працы ў паасобных грамадах. Мэтай кожнага гуртка — арганізаваць аматарскі калектыў, але не заўсёды гэта ўдаецца, бо не ўсюды ёсць каму пакіраваць справай. Але заўсёды лепш настаўніку, як члену гуртка, арганізаваць аматарскі калектыў. Толькі замала мы маем рэпертуару да вясковых пастановак, і заданнем нашага літаб'яднання «Белавежа» з'яўляецца павелічэнне яго. Пажаданым было б, каб школьныя ўлады дазволілі арганізаваць пры сярэдніх школах, педагагічных ліцэях гурткі БГКТ. бо выпускнікі гэтых школ будуць працаваць ў беларускім асяроддзі, каб яны маглі быць пачынальнікамі культурнага жыцця ў гэтым асяроддзі.

ВАСІЛЬ ДЗУН

АЛЯКСЕЙ ПЫСІН

*

Гул вакзалаў у шкляным блакіце,
Бесканечнасць рэек пазнаю.
Паязды начныя, пакажыце
Станцыю маленькую маю...

Кружыцца бяроз густое кола
З дымам, з грукатам у глыбіні.
У калясе ляснога частакола
Гулкія праносяцца агні.

І мяне бярозавай вясною
Падхапіла з сцежкай карусель.
Тысяча зямель перада мною,
І за мною тысяча зямель.

Разумею са сваёй аглядкі
На дажджы, на дрэвы пад дажджом:
Шмат гадоў забралі перасядкі
З нейкім непатрэбным багажом.

Зноў бы мне туды, дзе восень паліць
Успамінаў жоўты лістапад.
Грэюцца ў тваіх кішэнях, памяць,
Дзве далоні, што глядзяць назад.

Аж да белых зор чагось чакаю,
Аж да белых зор кагосьць малю...
Пад шчакой, здаецца, адчуваю
Станцыю маленькую маю.



Нашы інтэрв'ю

## Для дзяцей

**Пра дзяцей, выхаванне і дзейнасць Таварыства прыяцеляў дзяцей гаворым з прэзасам Акруговага праўлення ТПД у Беластоку Ежым Кошэлем.**

**— Хто такі прыяцель дзіцяці?**

— Кожны выразіцель інтарэсаў дзіцяці, чалавек чулы на радасць і нядолю яго. Кожны, хто хоча як найхутчэй памагчы дзіцяці, параіць бацькам, як выхоўваць. У назве «прыяцель дзіцяці» змяшчаецца вялікае абавязацельства, якое найлепш супольна выконваць у гуртках ТПД. Сарганізаваныя прыяцелі дзяцей змогуць ламаць абыякавасць і злую волю дарослых у іх адносінах да дзяцей.

**— Якое найважнейшае заданне гэтай сардэчнай арганізацыі на цяперашнім этапе?**

— Развіццё таварыства на вёсцы. Усё яшчэ вёска замала апякуецца дзіцём. У большасці вясковых сем'яў не ўмеюць рацыянальна выхоўваць сваіх дзяцей. Многа вясковых дзяцей працуе не па сілах і не па гадах. Яны да таго нерацыянальна ядуць, што спазняе іх фізічнае і разумовае развіццё. У многіх школах на вёсцы няма пастаяннай апекі, не лечацца хворыя зубы дзяцей. Дзеці з вёскі амаль не выязджаюць летам на адпачынак. Усё гэта не спрые і добрай навуцы. Тут і прычына другагадовасці і незаканчэння школы ў тэрміне.

Грамадскі рух для дабра дзіцяці на вёсцы трэба ўзяць у арганізацыйныя рамы, каб можна было лепш, больш выдайна дзіцяці памагчы. І таму развіццё гурткоў ТПД на вёсцы — першараднае заданне павятовых праўленняў ТПД.

(Працяг на стар. 2)



Фота: Ул. Паўлючук



 

### У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ ВК ПАРП

# У цэнтры увагі — школьніцтва

У снежні 1965 года адбылося супольнае пасяджэнне камісій нацыянальнай асветы і навукі Ваяводскага камітэта ПАРП. Тэматыка пасяджэння была прысвечана сітуацыі школьніцтва нацыянальных меншасцей у Беластоцкім ваяводстве. У нарадзе прынялі ўдзел прадстаўнікі Цэнтральнага камітэта ПАРП тав. У. Скшыпчак, Міністэрства ўнутраных спраў тав. Ч. Рукат, Кураторыум школьнай акругі, дырэктары беластоцкіх СН і актыў таварыства.

Усе члены камісіі атрымалі пісьмовую інфармацыю на вышэй успамянутую тэму, паводле якой распачалася дыскусія. Як у пісьмовай інфармацыі, так і ў часе дыскусіі найбольш месца прысвечана беларускаму школьніцтву, хаця гэтыя справы адносяцца ў цэласці да нацыянальнага школьніцтва.

У цэнтры ўвагі стаяла праблематыка **педагагічных аспектаў навучання дзяцей роднай мове іменна ад першага класа пачатковай школы,** а ў старэйшых класах гэтаму прадмету адводзіць менш месца. Многія дыскутанты закраналі справу навучання польскай мовы ў нацыянальных школах, гаворачы, што яе ўзровень павінен быць таксама высокі. Кіраўнік аддзела агульнаадукацыйнага школьніцтва Куратарыум тав. З. Дамброўскі паінфармаваў прысутных, што паводле вынікаў доследаў праведзеных рэсортам асветы не заўважаецца спецыяльнай розніцы ў авалоданні польскай мовы паміж вучнямі беларускіх школ, а тымі, дзе яна не выступае.

Многа месца ў дыскусіі прысвечана справе падручнікаў і літаратуры для нацыянальных школ. Дагэтуль ніхто дастаткова гэтым не займаўся, таму школы адчуваюць іх недахоп.

Кваліфікаваная кадра настаўнікаў у асноўным рашае аб узроўні нацыянальнага школьніцтва. На пасяджэнні выказвалася, на прыкладзе беларускага школьніцтва, што Кураторыум не займаўся дастаткова кадрамі для нацыянальных школ. Міма таго, што маем падрыхтаваных да выкладання беларускай мовы каля 400 настаўнікаў, далей гэты прадмет навучае ў нашым ваяводстве 45 настаўнікаў, якія не маюць правоў навучаць яго.

У сувязі з тым, што педагагічныя ліцэі не будуць ужо рабіць набору вучняў, неабходным з'яўляецца, каб Кураторыум перадумаў справу адукацыі кадраў для беларускіх школ на Настаўніцкай студыі. Вельмі моцна акцэнтавана была справа павышэння кваліфікацыі настаўнікаў беларускай мовы на **завочнай вышэйшай установе.**

Выступаючы ў дыскусіі тав. У. Скшыпчак сказаў, што Міністэрства асветы носіцца з намерам у бліжэйшым часе генеральна ўладзіць праблему нацыянальнага школьніцтва. «Нацыянальнае школьніцтва, — сказаў тав. У. Скшыпчак, — мае да выканання вялікія палітычныя і выхаваўчыя функцыі і таму не можа яно быць трактавана перыферыйна. Пакуль што Міністэрства асветы не мае ўдакладненых прапаноў. Беласточчына мае ўсе магчымасці, каб апрацаваць такія прапановы, на якіх зможа абаперціся Міністэрства асветы».

На пасяджэнні паклікалі падкамісію, якая выпрацуе прапановы адносна нацыянальнага школьніцтва, дасканалення для яго кадры і змены арганізацыйнага профілю. (к)

# Выйшаў альманах «Белавежы»

Ужо выйшаў альманах членаў літаратурна - мастацкага аб'яднання «Белавежа», якое дзейнічае пры ГП БГКТ. Назвай аб'яднання азагалоўлена і кніжка. У ёй друкуецца 24 аўтары, якія выступаюць тут са сваімі вершамі, апавяданнямі, сцэнічнымі творамі, нарысамі і карцінамі.

Выданне з'яўляецца своеасаблівай прэзентацыяй усіх сучасных беларускіх літаратурных сіл у Польшчы. Узбагачаюць яго фота і біяграфічныя даведкі паасобных аўтараў.

Альманах выдала Галоўнае праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства. Па сваіх маштабах гэта найбольш буйнае літаратурнае выданне нашага таварыства. Кніжка налічвае 316 старонак. Каштуе 10 зл. (з перасылкай 11 зл. 80 гр.) Літаратурны альманах «Белавежа» можна набыць у ГП БГКТ (ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11), а таксама ва ўсіх адзелах таварыства. Ювэ

# Адным сказам

■ Таварыства любіцеляў Белавежы развівае жывую дзейнасць: у кожную нядзелю ў Белавежы адбываюцца лекцыі і экскурсіі, высвятляюцца каляровыя здымкі аб слаўнай і прыгожай Белавежы.

*

■ Не горш спраўляецца аператыўны Музей рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. Розныя формы працы: выстаўкі, мантажы рэвалюцыйнай паэзіі, лекцыі аб мастацтве маюць у Музеі сваё сталае месца.

*

■ Ваяводская камісія прафсаюзаў арганізавала курс - канферэнцыю для кіраўнікоў клубаў, дамоў культуры, бібліятэк, кіно. Прафсаюзы маюць уласную сетку культурна - асветных пунктаў

*

■ Графіка — чорна-белае мастацтва будучыні. Выстаўка графікі беластачаніна па-паходжанню Рыгора Дамбровы адкрыта ў Музеі рэвалюцыйнага руху. Называецца «На зямлі, моры і ў паветры».

*

■ І месца ў зборы на школы 1000-годдзя за 1965 г. сярод школьнай моладзі занялі школьнікі Сакольшчыны, другое — Бельшчыны.






### СУДЫ ВЫБРАНЫ

На Беларусі адбыліся выбары народных судоў.

### КАМІТЭТ ЦЭН

Утворана ў Мінску Камітэт цэн. У яго склад уваходзяць, між іншым, намеснікі міністраў фінансаў і гандлю Беларусі.

### НОВЫЯ КАДРЫ

Каля 560 асоб займаецца на аспірантуры Беларускай Акадэміі навук. У 1965 годзе 50 асоб здабыло навуковыя тытулы.

### ПАМЯЦІ УЛ. КРЫЛОВІЧА

Па ініцыятыве беларускага Міністэрства культуры наладжана вечар прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння выдатнага майстра беларускай сцэны Уладзіміра Крыловіча. Вечар адбыўся ў мінскім акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

### СКІ

У канцэртнай зале Мінскай філармоніі адбыўся пленум Саюза кампазітараў Беларусі.

### ВЫСТАЎКА

Каля ста беларускіх жывапісцаў і скульптараў удзельнічала ў выстаўцы твораў 1965 года, якая адбылася ў Дзяржаўным музеі БССР.

### «ЛЯВОНІХА» НЕ ТОЛЬКІ БЕЛАСТОЦКАЯ

Вялікай папулярнасцю ў Беларусі і за яе межамі карыстаецца ансамбль танца «Лявоніха» — аматарскі калектыў Мінскага трактарнага завода. Цяпер маладыя артысты рыхтуюцца да гастроляў у Балгарыі.

На здымку: «Раджаство Багародзіцы» — праца Пятра Яўсеевіча з Галыніч, напісаная ў 1649 годзе. Гэта карціна знаходзіцца ў Дзяржаўным Мастацкім музеі Беларусі. (СЯ)

# Плён мастакоў

(Пару слоў аб выстаўцы)

Беластоцкія мастакі растуць. І не трэба быць занадта знаўцам, каб гэта сказаць. Даволі паглядзець апошнюю выстаўку малярства і скульптуры, каб проста і звычайна ўцешыцца. Многа вельмі цікавых прац, многа новых мастацкіх візій. Карціны жывыя і гавораць да нас. Хоць сучаснае гэта мастацтва, няма тут нейкай абсалютнай абстракцыі. Выстаўка прадстаўляе нам рэалістычную арыентацыю, зразумела, бачаную не дагматычна.

Карціны выклікалі шырокае зацікаўленне і што найбольш ацэньвае іх, многія ўжо куплены.

Сказаць трэба, што год мінулы, які нашы мастакі так слаўна закончылі, быў вялікім зрухам у Беластоцкім мастацтве. Разрушаліся і самі мастакі, і парвалася пануючая абыякавасць сярод усіх, хто адбірае працу мастакам — мы ўсе. (вл)

# Для дзяцей

(Працяг са стар. 1)

Мы хочам на вёсцы разбудаваць апеку над дзіцём дашкольным праз арганізаванне прадшкольных пунктаў (агніска прадшкольныя), вясковых дзяцінцаў, дакормліванне.

**— Добра будзе, калі дзейнасць такая знойдзе зразуменне і дапамогу іншых арганізацый.**

— Як найбольшае супрацоўніцтва ўсіх тут патрэбнае. На вёсцы нашымі памочнікамі павінны быць сельскагаспадарчыя гурткі, гурткі вясковых гаспадынь, ЗМВ, ЗГП, ЛК, спулдзельчасць, ЗСЛь, рады нарадовыя.

**— Ці такое сваё становішча адносна ролі рад вы пацвердзіце як сакратар Прэзідыум ВРН?**

— Так. Рады нарадовыя як суцэльны і найважнейшы орган улады, як ніхто іншы, абавязаны да этага. Яны павінны ствараць умовы для добрай дзейнасці ТПД і іншых арганізацый, падтрымліваць ініцыятыву. Да іх належыць, напрыклад, забяспечыць пляц для гульняў. Апека над дзіцём мае на вёсцы эканамічны аспект — звальняе жанчыну ад дадатковых клопатаў, і тым самым павялічвае яе выдайнасць у працы.

**— Як Беласточчына выглядае ў ТПД-оўскай дзейнасці ў краіне?**

— Мы наперадзе. Тэмп нашага развіцця, разнароднасць форм працы, рост арганізацыі за апошнія гады ставяць нас за прыклад. Мы стварылі базіс і цяпер можам яшчэ хутчэй расці. Патрэба ў нашай працы — вялікая, асабліва на вёсках. Мы пры нашых, так нямногіх, штатных працаўніках, гэтых патрэб не можам заспакоіць. Таму так важны вялікі грамадскі чын усіх людзей і ўсіх арганізацый, якія б свае грашовыя сродкі ўнеслі для дабра дзіцяці.

**— У мяне да вас яшчэ адно пытанне, больш асабістае: за гады вашага кіравання наша акруга ТПД узмужаў, выйшаў, як кажуць, на шырокія воды. Гэта нам гаворыць, што вы працавалі для гэтай арганізацыі з сэрцам, любоўю. Адкуль такія вашыя адносіны да дзяцей і іх інтарэсаў?**

— Я працаваў у партыйным апараце, ужо некалькі год тут (Прэз. ВРН — вл.). Увесь час сутыкаюся з людзьмі. Я бачыў дзяцей адзінокіх, занядбаных, хворых, дзяцей алкаголікаў. Ды ў мяне свае дзеці, якіх вельмі люблю. Хацеў бы, каб кожнае дзіця было вясёлае, здаровае, мела добрыя матэрыяльныя ўмовы. А ўвогуле час, у якім мне давялося жыць і расці, выдаецца, не скупіў клопатаў пра дзяцей і асабліва ўчуліў нас на іх лёс. У маім адчуванні, няма важнейшай справы ў жыцці народа, як выхаванне маладога пакалення. Люблю сваю гэтую працу яшчэ і таму, што ў ТПД ёсць сотні, хацеў адразу сказаць тысячы, ахвярных людзей. Можна тут многа зрабіць.

Размову вяла
**Вера Леўчук**



 

 

# хатнія размовы

Будзе гэта гісторыя звязана з адным міхалоўскім лекарам. Назавем яго — лекар У.

*

У Тапалянах загаварылі:

— Дохтар У кепскі!

— Мяне адаслаў з нічым, нават рэцэпты не даў...

— Жонка мела крыватокт, завёз яе да дохтара У, а ён кажа: бяры «пагатове»...

— Аляксеевай дачкі не хацеў прасвятліць, адсылаў яе ў Беласток...

— Садоўскую не прыняў з хвораю нагою, адсылаў яе да таго лекара, у якога лячылася, але яго не было на месцы. Яна пайшла назад на фуру, тады выйшлі медсёстры і зрабілі перавязку.

— Сцепанідзе Клімюк адразу сказаў, каб ішла туды, дзе лячылася. Але яна першы раз у жыцці прыйшла да лекара і нідзе не лячылася!

— Да лекара У ісці, дык ляпей памерці!

— Да другога лекара ўсе бягуць, як на крылах!

Загаварылі са злосцю і крыўдаю.

Гэта быў цэлы хор пацыентаў. Штосьці падобнае праспявалі, дакладней, пракрычалі мне не толькі ў Тапалянах.

Наслухаўся.

У хатах з электрычнымі лямпачкамі, радыёпрыёмнікамі, моднаю мэбляю і чыстымі ходнікамі размова такая самая, як і ў хатах з яшчэ нафтавымі лямпамі, з «точкаю» — самаграем на сцяне, і без газет на стале. Гавораць аб падатках, разважаюць аб дабрабыце, потым звадзіцца гутарка аб лекарах, часамі аб школе, аднак найчасцей аб лекарах.

Лекар добры тады, калі слухае, дае ўволю выгаварыцца і бярэцца вылечыць, выпісвае многа рэцэптаў; ляпей, калі рэцэпты на дарагія лекі. Лекар кепскі тады, калі не даецца на расцяглыя размовы, не спачувае і кажа, што адну хваробу вылечыць, а з другою трэба ехаць у Беласток.

Хтосьці кажа:

— Дохтар У кепскі, адсылае з нічым.

Зноў дохтар У не дае спакою. Як кажуць, адсылае з нічым і кепскі ён.

Людзі ходзяць да лекараў і да знахараў. Аб знахару не пачуеш такіх апіній, у найгоршым разе скажа хтосьці, што знахар не памог яму, але не адправіў з нічым! Помню знахарку Варку. Здаецца, яна нават пры вялікім прыплыве сваіх кліентаў не спяшаецца ў размове, вельмі цярплівая слухачка людскіх бед і адухаўлёная спачувальніца. У Амерыцы падобную ў пэўным сэнсе ролю адыгрываюць, так сказаць, слухачы. Гэтыя — як назваў я іх — слухачы маюць устаноўлены тэлефон, на які звоніць кожны, хто хоча выліць сваё гора - біду. Слухач слухае і спачувае, а чалавек пасля такой размовы адчувае палёгку, робіцца як бы лягчэй на сэрцы. Думаю, што лекары не дацэньваюць такой практыкі і таму чалавек часамі ідзе да знахара, замест у пункт аховы здароўя.

Вясковае паняцце аб добрым лекары даволі падобнае да паняцця аб знахару, які ад нікога не адкідаецца і бярэцца «лячыць» усялякія хваробы на свеце. У наш час людзі пачынаюць саромецца знахараў, а знахарскую ўсясільнасць перакідаюць на, так званых, добрых лекараў. Вось, як праламаўся ў вясковай думцы адзін з праменняў ідэі барацьбы са знахарствам.

Але ў хатах ізноў узняліся размовы, і я пільна слухаю іх. У хатах узяліся чытаць газеты: дзівуюць наконт касмічных палётаў, здзіўляюцца новымі адкрыццямі навукі. Адны не вераць, другія вераць. Тыя, што вераць, дапякаюць «няверным»:

— Не верылі, што ёсць самалёты?

— Не верылі, што ёсць радыё?

— Не верылі, што ёсць тэлевізары?

«Няверныя» здаюцца, хаця іх віна тут найменшая, бо ў самалёты не верылі іх бацькі і дзяды, якія даўно ў зямлі альбо ўжо дажываюць свой век на печах, у кажухах. «Няверныя» на ўсякі выпадак далучаюцца да «веруючых», каб не застацца ў дурнях. У хатах нараджаецца еднасць і пахвальная дыскусія: «да чаго ўжо дайшоў наш свет!» і «што гэта будзе далей!?» Дыскусія зыходзіць на больш патрэбныя справы дабрабыту і здароўя. Успомніўшы аб здароўі адразу разводзяцца аб лекарах і хто якую мае тэхніку. Цяпер лекар без тэхнікі — амаль не лекар. Усе думаюць аб прасвятленнях рэнтгенаўскім апаратам.

— Прасвятліць і ўсю хваробу бачыць усярэдзіне.

Хтосьці кажа:

— Дохтар У кепскі, не прасветліў.

### ЯСНАСЦЬ, АЛЕ НЕ ТАЯ.

Ужо час мне канчаць гэтыя размовы. Аднак жа не маю пачуцця яснасці. Пагоня за яснасцю заводзіць мяне спачатку ў кабінет лекара У.

Пагаварылі.

Тое, што сказаў лекар У, маім абавязкам было параўнаць з апініямі спецыялістаў. Аднак гэтыя апініі, агульна кажучы, пацвердзілі тое, што пачуў ад лекара У.

І так:

Кіраўнік Інстытута біялогіі Беластоцкай Медыцынскай Акадэміі дацэнт Васіль Чэчуга тлумачыў мне падставовую праўду, што кожны лек шкодзіць нашаму арганізму. Калі лек больш паможа, чым пашкодзіць, тады ёсць сэнс ужываць яго. У тым, наколькі даны лек больш паможа, чым пашкодзіць, рашае лекар, і толькі лекар.

Пасля размовы з дацэнтам В. Чэчугам прыпомніўся мне стары аптэкар Курыла, які ва ўсёй нашай акаліцы меў вялікую славу ў «лячэнні» зубоў. Яго «лячэнне» было такое, што хворы зуб паліваў ён, так званым, крывазотам. Балючы зуб пераставаў балець, а праз якісьці час без болю крышыўся і вывальваўся разам з карэннямі. Крывазот нішчыў зуб дашчэнту разам з нервамі і жывятворнымі тканкамі.

Людзям важнейшы быў боль, чым зуб і ратунак яго.

Пазаўчора быў я ў дэнтыста, які — як кажуць — жыўцом вырывае нерв

(Працяг на стар. 4)



Тарашкевіч у дваццатых гадах.

Тарашкевіч ва ўспамінах

# ШКОЛА

Аднойчы дваюрадны брат Тарашкевіча Пётр Ганцэўскі, які вучыўся ў віленскай польскай гімназіі, запытаў Тарашкевіча з нецярплівасцю:

— Скажы, ці будзем мы мець калі сваю беларускую дзяржаву?

— Будзем мець, але толькі тады, калі будзем мець многа адукаваных людзей. Без адукацыі нічога не створым.

У гэтым даволі лаканічным і няхітрым сцвярджэнні заключаўся ўвесь вопыт Тарашкевіча здабыты ў асяроддзі віленскіх беларусаў. Асяроддзе гэтае выдала з сябе параўнальна вялікую групу беларускай інтэлігенцыі ствараючай ідэі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці, само, аднак, у асноўнай сваёй сялянскай масе, асяроддзе гэтае засталося глухім на так сфармуляваныя ідэі.

Некалькі гадоў пазней Тарашкевіч зразумеў, што існуе другая магчымасць, другая значна карацейшая дарога нацыянальнага вызвалення беларусаў, дарога спалучэння нацыянальных ідэй з ідэямі грамадскай справядлівасці. Дарога гэтая вяла Тарашкевіча ў рады камуністычнай партыі.

У пачатку, аднак, дваццатых гадоў Тарашкевіч, як і іншыя беларускія дзеячы згуртаваныя ў Вільні, галоўнай сваёй мэтай лічыў прабуджэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў. Асноўным сродкам гэтага прабуджэння была беларуская школа.

У Вільні існавала тады беларуская гімназія. Вучыліся ў ёй дзеці беларусаў каталікоў, праваслаўных і жыдоў. Сустракаліся тут даволі часта ксёндз, поп і рабін. Ксяндзы - беларусы вучылі тут зрэшты не толькі рэлігіі, але і іншых прадметаў. Браніслаў Тарашкевіч навучаў беларускай мовы і цешыўся сярод вучняў найбольшай папулярнасцю. Даведваемся аб тым ад Надзеі Касовай, адной з вучаніц гэтай гімназіі. Належыцца ёй некалькі вершаў нашай увагі.

* * *

Надзея Касова нарадзілася на Віленшчыне ў сям'і чыгуначніка. У час І сусветнай вайны разам з бацькамі была вывезена ў глыб Расіі. Там пачала вучыцца ў сярэдняй школе, якой аднак не закончыла. Вярнуўшыся ў Вільню паступіла ў беларускую гімназію, у якой вучылася ў 1921—1923 гадах. Пасля заканчэння гімназіі аніякай працы ў санацыйнай Польшчы не магла атрымаць. Пасля ІІ сусветнай вайны Надзея Касова пераехала ў 1945 годзе ў Польшчу і працавала настаўніцаю ў вёсцы Рэшкі, Альштынскага ваяводства.

Зараз Надзея Касова вучыць біялогіі ў школе нумар 5 у горадзе Аструда.

— Браніслаў Тарашкевіч, — гаворыць Надзея Касова, — належаў да людзей, якіх усе любяць. І мы яго любілі. На школьных урачыстасцях знаходзіўся ён заўсёды ў кругу разрадаванай, вясёлай моладзі.

У памяці вучаніцы Браніслаў Тарашкевіч зарысаваўся як чалавек надзвычай дабрадушны з нягаснучай усмешкай на вуснах. Вучні беларускай гімназіі ніздзе раней беларускай мовы не вучыліся, ведалі яны толькі віленскі беларускі дыялект, у якім параўнальна многа паланізмаў. Тарашкевіч не злаваўся, з гэтай жа дабрадушлівай ухмылкай цярпліва выпраўляў моўныя недахопы вучняў.

Кніжак да навучання беларускай мовы амаль не было. Тарашкевіч найчасцей прыносіў з сабою кніжкі з хаты, вучні чыталі іх на ўроках, часта бралі з сабою дадому. Чыталі вершы Купалы, Коласа і іншых беларускіх пісьменнікаў. Часта Тарашкевіч чытаў вучням свае вершы проста са сшыткаў.

Слухаючы ўспамінаў Надзеі Касовай аб дабрадушлівым, спакойным настаўніку Браніславу Тарашкевічу, цяжка ўявіць сабе, што быў гэта той самы паслядоўны, непахісны рэвалюцыянер, якога палымяныя прамовы некалькі гадоў пазней узналі беларускі люд на барацьбу з санацыйным рэжымам.

УЛАДЗІМІР ПАЎЛЮЧУК



Надзея Касова, вучаніца Браніслава Тарашкевіча.



 

 



Сямяцічы. Новае будаўніцтва. Фота: А. Казёл

## ДЛЯ ЗДАРОЎЯ

Калі сустрэнецца кума з кумою, найчасцей заводзяць гутарку пра здароўе. Справа важная. Для аховы здароўя створана дагэтуль на Беласточчыне 171 пункт аховы здароўя. Многа гэта, ці мала?

Беручы статыстычна адзін пункт аховы здароўя прыпадае на звыш 20 вёсак. Цешыцца тады няма чым. У Беластоцкім ваяводстве наглядаецца найвышэйшую ў краіне смяротнасць дзяцей да аднаго года жыцця. Найбольш цяжка дастацца да зубнога лекара. Паводле падлікаў **камісіі здароўя** ваяводскай рады ў Беластоку не хапае нам 220 дэнтыстаў.

(вр)

# ЯК АПРАЦОЎВАЦЬ БАЙКІ

### Настаўнікам беларускай мовы

У навучанні беларускай мовы, у нашых умовах, настаўнікі вельмі часта выкарыстоўваюць чытанне баек. Для гэтага прыводзім метадычныя парады на гэту тэму.

Байка — гэта алегарычны твор, у якім у вобразах звяроў, птушак і розных рэчаў пісьменнік падразумявае людзей, высмейваючы іх недахопы. Ад іншых відаў твораў байка адрозніваецца наступнымі прыметамі:

а) алегарызмам г. зн. іншасказаннем, б) наяўнасцю маралі, в) асобным тыпам яе чытання.

Байкі каштоўны тым, што яны маюць тыповыя вобразы і сакавітую народную мову. У байках высмейваецца некультурнасць, грубасць, эгаізм, лёгкадумнасць, лянiства.

Як працаваць над вобразамі баек? Спачатку патрэбна разглядаць вобразы байкі як рэальна існуючыя аб'екты. Пасля таго, як вучні засвояць рэальны характар выведзенага ў байцы вобраза, настаўніку трэба перайсці да раскрыцця алегорыі байкі. Лепш за ўсё раскрываць яе шляхам падбору з дзяцьмі аналогіі з жыцця. З гэтай мэтай вучні пад кіраўніцтвам настаўніка ўспамінаюць сапраўдныя або магчымыя выпадкі, якія маглі мець месца ў жыцці. Пры такім падыходзе да раскрыцця алегорыі байкі, вучні будуць успрыймаць яе не абстрактна і не будуць паніжаць мастацкіх вартасцей байкі. У сувязі з гэтым, **алегорыя байкі раскрываецца пасля яе чытання і разбору вобразаў.**

У некаторых выпадках дзяцей можна падвесці да разумення алегорыі байкі ўступнай гутаркай да яе. Педагог Ушынскі па гэтаму пытанню гаварыў: «Калі вы хочаце прачытаць дзецям байку Крылова, то вазьміце які-небудзь выпадак з дзіцячага жыцця, дзе б менавіта выражалася тая слабасць або той недахоп, які высмейвае Крылоў у сваёй байцы. Расказваючы гэты выпадак, вы можаце ўжо ўжываць тыя народныя выразы, якія ўжываў Крылоў у байцы; а потым прачытайце байку; яе гумар і народныя звароты падзейнічаюць на пачуцці дзяцей».

Пасля высвятлення алегорыі выводзіцца мараль, якая закладзена ў байцы. Вывад можа быць змешчаны ў пачатку або ў канцы байкі. Ён зазвычай аддзяляецца ад асноўнага тэксту байкі рысачкай. Пры разглядзе закладзенай у байцы маралі нельга станавіцца на шлях чытання вучням настаўленняў, на шлях чытання натацый. Байка павінна вучыць і выхоўваць дзяцей сваімі вобразамі. Адзначаная вышэй работа па разбору байкі праводзіцца ў III—IV класах, а нават пятым. У малодшых класах байку трэба чытаць як звычайнае і простае апавяданне аб жыцці жывёл. Пры разборы настаўнік павінен сам прыводзіць аналогію з жыцця.

Як чытаць байку? Нельга яе чытаць урачыстым тонам, а тонам гутарковай мовы. Калі ў байцы апавяданне вядзецца ад імя героя, тады падбіраецца такі тон, які ўласцівы данаму герою. Словы лісы па тону будуць адрознівацца ад слоў ваўка, мядзведзя. Пры чытанні слоў лісы вучань павінен перадаць яе асаблівасці: хітрасць, ліслівасць, падман. Пры чытанні слоў ваўка падкрэсліць грубасць, саманадзейнасць і іншыя.

Байка — гэта каштоўны мастацкі матэрыял для ўзбагачэння мовы дзяцей. Для гэтага настаўнік павінен даваць іх дзецям завучаць напамяць.

Урок чытання байкі будуецца прыкладна на наступнай схеме:

1. Уступная гутарка з тлумачэннем слоў байкі, якія могуць выклікаць цяжкасць пры першым яе чытанні.
2. Чытанне байкі настаўнікам, а потым вучнямі.
3. Чытанне і разбор байкі па частках з тлумачэннем слоў і выразаў. У гэтым месцы ўрока разглядаюцца малюнкі да байкі і робіцца яе пераказ.
4. Характарыстыка вобразаў і вывад галоўнай думкі. Для падмацавання сваіх думак дзеці чытаюць асобныя месцы байкі.
5. Падбор аналогіі з жыцця і раскрыццё алегорыі байкі.
6. Работа над выразным чытаннем. Выбар агульнага тону чытання байкі і вызваленне асобных месц, устанаўленне асаблівасцей іх чытання.
7. Чытанне байкі па ролях.

**А. К.**

# Расказ дзядзькі Вакулы

Дзядзька Міхась Вакула з Меляшкоў прыйшоў у рэдакцыю са старонкай «Нівы» ў руках (ужо сцёртай), дзе была мая, у маім адчуванні, вельмі даўняя інфармацыя аб пэўнай партызанскай радыёстанцыі. Служыла яна партызанам ад 1941 года, а цяпер як экспанат знаходзіцца ў Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку.

Дзядзька Міхась Вакула з Меляшкоў запытаў: а чаму мяне няма ў інфармацыі? А як вы звязаны з ёю — радыёстанцыяй?

Дзядзька шырока расказаў аб тым, як ён вёз дзве зашытыя ў клешні нагавіц лямпачкі да знаёмага Эдуарда Врублеўскага, каб той, як спецыяліст, іх спраўдзіў, ці добрыя. Па дарозе трапіў пад нямецкую рэвізію (часы былі небяспечныя), але немцы мацаючы хутчэй натрапілі на кішэню дзядзькі, дзе было паўлітра самагону. Гэта, як цвердзіць дзядзька, выратавала яго. Лямпачкі Врублеўскі спраўдзіў, і яны аказаліся добрымі. Але радыёстанцыя здабытая Кісляком і іншымі не працавала. Трэба было да Врублеўскага ехаць са станцыяй. Дзядзька Вакула наладаваў воз сена і ў сене завёз да Бераставіцы радыёстанцыю. Эдвард Врублеўскі быў знаёмым Міхася Вакулы і потым яшчэ раз ладзіў партызанскую радыёстанцыю. Загінуў расстраляны немцамі.

Дзядзька Вакула доўга расказвае аб тым вельмі неспакойным перыядзе года 1941. Яго самога немцы арыштавалі, у беластоцкай турме клалі на гарачую пліту. «Хочаце, пакажу вам плечы». «Не, кажу, не трэба паказваць». І яшчэ аб тым, як у яго кватэры на хутары за санацыі збіраліся дзеячы партыі. Дзядзька быў багаты, меў многа кароў і гэта было яго алібі перад паліцыяй, якая не падазравала, што спрыяў ён рэвалюцыйнай працы.

Хоча належыць да Збовіду. Склаў заяву. Сваё дачыненне да радыёстанцыі партызан хоча лічыць як дакумент. (вл)

# МЕХАНІЗАЦЫЯ

У Гайнаўскім павеце ёсць 146 салэцтваў. Падзелены павет на 17 грамад. Налічваецца тут 99 сельскагаспадарчых гурткоў, якія аб'ядноўваюць 2587 членаў. У валоданні 72 сельгасгурткоў знаходзіцца 112 трактараў з поўнымі камплектамі сельскагаспадарчых машын і 102 малацільныя агрэгаты. Да мінулага года канцэнтрацыю сельскагаспадарчай механізацыі прыводзілася ў 4 грамадах. Да іх далучана яшчэ дзве грамады. І так, зараз канцэнтруюцца машыны ў грамадах: Кляшчэлі, Старакорнін, Чыжы, Нованберазова, Кленікі і Ласінка. Тут знаходзіцца 41 сельгасгурток, а ў іх 67 трактараў. Паводле планаў у 1970 годзе будзе іх 190. Гэта значыць, што адзін трактар будзе прыпадаць на 103 га зямельных угоддзяў. Да гэтага часу забеспячэнне ў кадры трактарыстаў даволі добрае, таму што ў ПОМ-ах у Нарве і Кляшчэлях праводзяцца спецыяльныя курсы.

**Віталіс Назарук**
Гайнаўскі павет




Галіна з Н. у сваім пісьме, між іншым, пытаецца, якія крэмы ўжываць летам, а якія зімою. «Да гэтай пары, — піша Галіна, — я ўжывала крэм хларафілавы і на дзень і на ноч. Але як пачаліся маразы, скура на твары пачала змяняцца. Што з'яўляецца прычынаю?»

Хларафілавы крэм служыць да звільготнівання твару. На ноч вы можаце смараваць твар гэтым крэмам, але на дзень ужывайце больш тлусты крэм, які ахоўвае скуру твару перад дзеяннем марозу і ветру.

Нельга таксама ўжываць раніцаю, ідучы на работу, пудру ў крэме. Раніцай, калі размажаце яе па твару, вы вельмі добра выглядаеце, прыгожа. Але колер твару потым мяняецца, а пасля пару тыдняў скура зробіцца старою, мяккаю. Чаму? Да скуры не даходзіць ні паветра, ні сонца. Поры затканыя, не маюць чым дыхаць. Цэлы дзень скура пакрыта якбыццам бы панцырам.

Запамятайце, пудра ў крэме не з'яўляецца ніякім касметычным сродкам, які можна ўжываць штодзённа, ад самай раніцы да вечара. Захавайце яе на іншыя аказіі, ужываючы раз у месяц. А штодзённа ўжываецца пудру ў парашку.

**АКСІННЯ**




(Працяг са стар. 3)

з хворага зуба. Боль дзікі, аж кашуля памакрэла, але зуб застанецца цэлым і паслужыць доўгія гады, другі напэўна не вырасце. Вядома, дэнтысту найлягчэй было зрабіць з маім зубам так, як Курыле.

Раздумоўваючы над легендай курылавага «лячэння» зайшоў я ў вядомую беластоцкую бальніцу-гігант. Там адбылася працяглая размова з доктарам медыцыны Яраславам Шмурло, які з'яўляецца ад'юнктам Інстытута радыялогіі. Сцвердзіў ён факт залішніх прасвятленняў без патрэбы. Больш бяспечна было б здароўю людзей, каб сваю ахвоту прасвятляцца задавальнялі ў даступных усім прасвятленнях — фатаграфаваных на вузкім фільме — у Беластоку пры Алеі 1 Мая. Шкоднасць такіх прасвятленняў у дзесяць-дваццаць разоў меншая, чым прасвятленне звычайным рэнтгенаўскім апаратам.

Было такое здарэнне, што цяжарная жанчына дамагалася прасвятлення. Гэта магло б кончыцца яе бясплоднасцю на ўсё жыццё. Справа ў тым, што рэнтгенаўскія праменні маюць знішчальны ўплыў, перад усім, на органы размнажэння.

На вуліцы Кюры-Склэдоўскай, пры якой рассеўся «гігант», штораз вые карэтка хуткай дапамогі. Тут, па-суседску, знаходзіцца Ваяводская станцыя хуткай дапамогі. Заходжу да кіраўніка станцыі лекара Уладзіслава Старасцяка.

Хуткая дапамога адыгрывае надзвычай важную ролю ў лячэнні цяжкіх хвароб. Карэткі хутка дастаўляюць цяжка захварэўшых у рукі спецыялістаў. Напрыклад, часта здараюцца крываткі, якія моцна небяспечныя, і местачковы лекар проста не мае права брацца лячыць іх на месцы...

Мае беластоцкія размовы ўзбагаціліся фактамі, думкамі, рэфлексіямі. Здавалася б. тапалянцы носяць у сабе крыўду да лекара У, бо не разумеюць альбо проста не ведаюць падставовых спраў лячэння. Здаецца, дабіўся я нарэшце яснасці!

Аднак жа ў гэтай яснасці пачынаю адчуваць шмат няяснасцей.

### БАЯЗЛІВЫ СЛЕД

Яшчэ раз услухоўваюся ў хор пацыентаў. Тым разам у гэтым хоры выразна чую голас Клімючыхі:

— Лекар У адразу сказаў, каб ішла лячыцца туды, дзе лячылася. Але я, паночку, нідзе не лячылася, першы раз у жыцці прыйшла да лекара.

І другі голас:

— Садоўскую не прыняў з хвораю нагою... Яна пайшла назад на фуру, тады выйшлі медсёстры і зрабілі перавязку нагі.

І трэці голас:

— Да лекара У ісці, то лепей памерці!

Хочацца сказаць гэтым галасам: — «Людзі, зразумейце, лекар У — гэта разважны лекар!»

Але ніхто мяне не пачуе.

І буду без рацыі.

Ані Клімючысі, ані іншым галасам не разыходзіцца пра кваліфікацыі лекара У. Справа не ў лекарскіх кваліфікацыях лекара.

У балагане людскіх жаляў і хатніх размоў усё памяшалася — кваліфікацыі памяшаліся з чымсьці другім, найважнейшым!

Варочаюся назад у Міхалова ўжо з другім адчуваннем аб «кепскім» лекару У. Маё адчуванне ператварылася ў прадчуванне. Дзіўныя дарогі прадчування? Думаю: вясковыя жалі — натуральная рэч, чалавек выбіраецца да местачковага лекара, запрагае каня, траціць дзень і лекар У не прымае яго, бо, магчыма, не меў часу, вялікая чарга.

У местачковым Міхалове першыя крокі кірую ў парогі мясцовай знаці, для якой лекар У — гэта сусед і, каб быць у яго, не трэба запрагаць каня, траціць цалюткі дзень, нават шчыра кажучы, не заўсёды ёсць патрэба калець у чарзе, асабліва, калі лекар У знаёмы і падае руку.

Пытанні маю напагатове. Вось рэляцыя пытанняў і адказаў.

Пытанне:

— Як ацэньваеце лекара У?



 

 

# АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КУТОК ШКОЛЬНАЙ РЭФОРМЫ

Навучальны 1965/66 год — год незвычайны для нашых сямікласнікаў, бацькоў, настаўнікаў. Ужо ад пачатку навучальнага года пачалася гарачая падрыхтоўка да выбару будучай прафесіі, а ў асноўным: ці пасля заканчэння сёмага класа ісці ў сярэднюю школу, ці застацца вучыцца ў восьмым класе пачатковай школы?

Непаўторную аказію атрымалі абсальвенты з мінулага года, якія з розных прычын не паступілі ў сярэднія школы. Аказія заключаецца ў тым, што яны неяк маюць першынство да сярэдніх школ у гэтым годзе. Пішам «як бы» таму, што будзе яно залежыць ад экзаменаў.

Асветныя ўлады распрацавалі падрабязныя размеркавальнікі на паасобныя паветы, у якіх паданы лікі вучняў з данага павета да паасобных школ у ваяводстве. Безумоўна, што найбольшая колькасць у тэхнікумах і асноўных прафесіянальных школах прызначана для абсальвентаў сёмых класаў з мінулых гадоў.

Не ўсе вучні сёлеташніх сёмых класаў маюць права, пасля аканчэння 7-га класа, ісці ў сярэднюю школу. Права такое маюць толькі тыя вучні, якія да 1 ліпеня 1966 года кончаць 14 год жыцця. Усе апошнія аўтаматычна застаюцца вучыцца ў 8-мым класе пачатковай школы. Гэта не абазначае, што ў восьмым класе не будзе вучняў першай групы, паколькі не ўсе яны дастануцца да сярэдніх школ.

Прашэнні ад абсальвентаў мінулых гадоў аб прыняцці ў школы прыймаюць непасрэдна дырэкцыі паасобных школ. А вучні, якія вучацца яшчэ ў сёмым класе, прашэнні такія складаюць выключна кіраўніцтву сваёй школы. Сярэднія школы індывідуальна складаных прашэнняў не будуць прыймаць.

Экзамены адбудуцца ўжо ў пачатку красавіка 1966 г. Аб выніках экзамену ні вучні ні бацькі не будуць адразу інфармаваны. Зрэшты гэты экзамен не будзе ахапляць цэласці праграмы сямігадовай школы, таму што школьны год канчаецца аж у чэрвені.

Мы ўжо сказалі, што ў гэтым годзе перад усім звернута ўвага на абсальвентаў пачатковых школ з мінулага года і што ў сувязі з тым, што агульнаадукацыйныя ліцэі зусім не будуць рабіць набору, колькасць месц будзе абмежавана. Калі ідзе пра вясковую моладзь, дык яе шанцы ў «эспээрах». Паколькі колькасць месц і тут таксама агранічана, то ўсё ж у адносінах да агульнага плана яна вялікая. Напрыклад, у Бельскім павеце на 360 месц СПР-ы павінны прыняць 150.

Але ўжо прадбачваецца пэўны недахоп арганізацыйнага боку. Цяжкасці заключаюцца ў тым, што некаторыя кіраўнікі школ (больш усяго на вёсцы) не змогуць прадбачыць колькасці вучняў у 8-ых класах сваіх школ. Справа ў тым, што частка вучняў 7-ых класаў, якія стараюцца ў сярэднія школы, не будзе прынята з розных прычын. Але практычна яны маюць яшчэ адзін выбар: ісці ў СПР або застацца ў 8-ым класе пачатковай школы. Які зробяць выбар, цяжка сказаць. Гэта мае сваё значэнне таму, што кіраўнікі некаторых школ стануць перад дылемай: арганізаваць восьмы клас, ці не? Трэба адзначыць, што ў нас будуць мясцовасці, дзе міма таго, што плануецца васьмігодка, восьмага класа не будзе ў навучальным годзе 1966/67. Станецца гэта перад усім у тых мясцовасцях, дзе сёмы клас невялікі, а частка вучняў адыйдзе вучыцца да іншых школ.

У гэтым лабірынце новых і не заўсёды ясных спраў магчыма найбольшую дапамогу настаўнікам і школам павінны аказаць бацькоўскія камітэты і ўсе арганізацыі, якія існуюць на вёсцы. Бацькі павінны пазнаёміцца з пастановамі і крокамі ўлад.

А. К.

*Сельская гаспадарка без таямніц*

# АБ ПАРАСЯТАХ

На сёлеташніх сельскагаспадарчых занятках шмат увагі прысвячаецца адкорму свіней. Цікавая гэта тэма, асабліва для нашага ваяводства. У нас ёсць у гэтай галіне значныя дасягненні, асабліва ў колькасці свіней. Наша пагалоўе свіней налічвае 900 тыс., а ў 1938 годзе складала яно каля паўмільёна свіней.

На беластоцкай вёсцы найбольшы даход атрымліваецца ад продажу жывых свіней. Аднак шмат існуе яшчэ ў свінагадоўлі нявырашаных спраў, шмат метадаў лічыцца ўжо ўстарэлымі, многія вынікі зусім не згодны з прынцыпамі навейшай свінагадоўлі.

Напрыклад: у нас свінаматкі прыводзяць у год у сярэднім па 8—9 парасят. Гэта вельмі мала. Перадавыя гаспадаркі ў Рускай Всі або на доследнай станцыі ў Сейніку ад адной свінаматкі атрымліваюць у год 22 парасят. Гэта ўжо найлепшыя вынікі ў краіне.

Там не прымяняюць нейкіх спецыяльных метадаў у выхоўванні і кармленні. Хопіць правільна выконваць толькі тое, што прапануе сельскагаспадарчая навука. Галоўнае, трэба забяспечыць цяпло і гігіену ў першыя дні жыцця, а таксама адпаведны корм.

Сяляне добра ведаюць, што парасяты вельмі ўражлівыя на холад, скразнякі, бруд, дрэнны і нясвежы корм, недахоп дастатковай колькасці бялкоў, мінеральных соляў (галоўным чынам вапны і фосфару), вітамінаў і жалеза. Калі няма адпаведных умоў і догляду, парасяты дохнуць (нярэдка больш як палавіна апаросу).

Добрых вынікаў дабіўся Карл Бабінскі з Бабіна (Беластоцкі павет). Ён выхаваў усе 10 парасят з аднаго апаросу. Праз 8 тыдняў парасяты важылі па 22 кг. За тыя 8 тыдняў Бабінскі скарміў 77 кг паўнатлустага малака, 191 кг худога малака, 50 кг ячменю, 10 кг пшанічнага вотруб'я, 35 кг драбленага гароху і трохі бульбы.

З доследаў беластоцкага саюза свінагадоўцаў вынікае, што традыцыйныя кашкі і супы пры кармленні малых парасят не даюць жаданых вынікаў. Асабліва адмоўнай з'явай у кармленні парасят на нашых вёсках з'яўляецца даванне парасятам вялікай колькасці бульбы. Гаворачы агульна, вельмі мала ў такім корме бялкоў.

Таму прапануецца скармліваць большую колькасць высокабялковых збожжавых мяшанак, а таксама пражанага ячменю, мінеральных мяшанак, можа дадатак прэпарату жалеза і рыбнага тлушчу. Добры эфект дае таксама аграванне хлявоў спецыяльнымі лямпамі, частая пабелка хлявоў, выпуск парасят на свежае паветра.

Вельмі шмат залежыць ад кармлення і догляду ў першыя дні жыцця. Справа не толькі ў велічыні страт пры выхоўванні, але таксама і адкорм аплачваецца толькі тады, калі свінні хутка растуць пры невялікай падачы кармоў. Цяпер на рынку вышэй цэніцца худое мяса. А такога тавару нельга атрымаць, скармліваючы шмат бульбы.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ

★ ★ ★

Адказ:

— Лекар У — дасведчаны медык, шмат працуе на карысць грамадскай справы. З'яўляецца ён цэнным памочнікам у важкіх ініцыятывах. Словам, лекар, якога нам трэба.

Пытанне:

— Людзі маюць крыўду да лекара У, гавораць аб яго бестактоўнасці, закідаюць яму панкаватасць, грубіянства?

Адказ:

— Не чуваць было таго. Зрэшты...

Бачу ў вачах маіх субяседнікаў агеньчыкі як бы перапалоху. Вочы насцярожана мацаюць мой твар, мускул за мускулам, потым углядаюцца ў акно. Яны вагаюцца, чагосьці забаяліся. Губы павіслі на слове «зрэшты»...

Настала маўчанне — напружанае, надакучлівае.

Вочы не адрываюцца ад акна, а губы гавораць з перапрашальнай усмешкаю:

— Я не магу вам аб гэтым расказаць... Ведаеце, сёння я здаровы, а заўтра мо прыдзецца ісці да лекара У.

Вочы прыліплі да акна, губы ізноў загаварылі:

— Маю жонку, дзяцей — яны таксама калісьці на штосьці захварэюць і пойдуць да лекара У...

Не дамагаюся шчырасці. Размовы спаўзаюць на справы пагоды і халадоў. Вочы субяседнікаў глядзяць ужо проста, адкрыта.

Думаю аб лекару У. Баюся, што напаў я на след той найважнейшай яснасці ў цэлай гэтай гісторыі.

САКРАТ ЯНОВІЧ

# Чытачы пытаюць — „Ніва" адказвае

Пад гэтым лозунгам друкуем адказы на пытанні, якія найбольш хвалююць нашых чытачоў.

Сёння адказ на пытанне:

Ужо некалькі гадоў часта і многа гаворыцца ды пішацца пра так званыя **эканамічна занядбаныя гаспадаркі.**

**Што гэта такое? Ці можна яшчэ цяпер залічыць гаспадарку да гэтай групы?**

З гэтымі пытаннямі звярнуліся мы да сельскагаспадарчага аддзела ВРН у Беластоку. Вось што сказаў нам інжынер **Качмарскі:**

«Праўную аснову для стварэння катэгорыі **гаспадарак эканамічна занядбаных** дала пастанова Эканамічнага Камітэта Савета Міністраў ад 10 ліпеня 1962 года. Абапіраючыся на гэтай пастанове Прэзідыум ВРН 4 кастрычніка 1962 года прыняў выканаўчую пастанову № 37/252 у якой, між іншым, гаворыцца, што гаспадарку эканамічна занядбанай трэба лічыць:

а) калі прынамсі палавіна ўсіх яе зямельных угоддзяў ляжыць аблогам,

б) калі яна агульна знішчана (развалены хлявы, стары дом, няма сельскагаспадарчых прылад), а плёны, якія збірае яе ўласнік, шмат ніжэйшыя ад сярэдняга ў суседзяў,

в) калі вельмі мала на ёй жывёлы (няма каня, адна толькі кароўка, двое свіней і больш нічога),

г) калі няма каму працаваць на зямлі, або нейкія іншыя прычыны не дазваляюць на самастойнае яе аздараўленне,

д) калі ўласнік адчувае пякучы недахоп грошай, бо толькі што, скажам, пабудаваўся, або купіў дарагія, але неабходныя ў сельскай гаспадарцы машыны.

Рашэнне ці гаспадарку залічыць да катэгорыі эканамічна занядбаных прымае прэзідыум паветовай рады на аснове абгрунтаванай прапановы прэзідыума мясцовай грамады.

Для ўласнікаў гаспадарак эканамічна занядбаных **спыняецца патрабаванне заплаты ўсіх залеглых падаткаў на працягу 3-х год,** а калі гаспадарка складаецца з вельмі дрэннай зямлі (шосты клас) агульны ацэначны даход, які служыць за аснову ападаткавання, можна зменшыць нават на 80%. Абавязковыя пастаўкі таксама змяншаюцца на 20% для гаспадарак на слабой зямлі (пяты, шосты класы), залічаных да эканамічна абяднелых.

Дапамога гаспадаркам эканамічна занядбаным не абмяжоўваецца толькі да ільгот у падатку і абавязковых пастаўках. Дзяржава гарантуе ўсебаковую грашовую дапамогу. Сельскагаспадарчыя банкі ад пазык прызначаных на аздараўленне гаспадарак эканамічна занядбаных адлічваюць для сябе ўсяго ледзь два працэнты ад сумы пазыкі. Мясцовыя аграномы і заатэхнікі абавязаны пастаянна сачыць за правідловым развіццём гаспадарак эканамічна занядбаных, а сельгасгурткі ў першую чаргу

(Працяг на стар. 7)

# ЭТНАГРАФІЧНЫ КУТОК



Хата Паўла Гусакова з Соцаў, Гайнаўскага павета. Фота Ул. Юзвюк



 

# Вельмі здольным дзецям

У ЗША арганізавана два цэнтры, якія займаюцца метадамі навучання, навуковымі дапаможнікамі і адміністрацыйнымі справамі звязанымі з навучаннем вельмі здольных дзяцей. Цэнтры ахопліваюць дзяцей на ўзроўні пачатковай школы і сярэдняй. Школьная праграма будзе тут многа ўзбагачаная ў адносінах да праграмы школ нармальных, больш разнастайная і будуць яе праходзіць у больш хуткім тэмпе. Да працы над праграмамі і падручнікамі для гэтых цэнтраў паклікана прафесараў з універсітэтаў.

У Маскве ёсць школа - інтэрнат дзецям, якія маюць вялікія здольнасці па матэматыцы. Вучыцца тут 360 вучняў апошніх класаў сярэдніх школ. Выкладчыкамі матэматыкі і фізікі з'яўляюцца навуковыя працаўнікі вузаў. У школе ёсць 12 фізічных кабінетаў. Падобныя школы існуюць у Ленінградзе, Новасібірску і Кіеве. (а)

## Ахаладжальнік дома

Ашхабад — адзін з найбольш гарачых гарадоў Савецкага Саюза. Зусім нядаўна з'явіўся тут незвычайны дом. У ім заўсёды халаднавата, нават у самыя спякотныя дні. Туркменскія вучоныя прыдумалі для гэтага дома ахаладжальнік, які працуе ад сонца.

У знадворнай сценцы зрабілі невялікае ўвагнутае металічнае люстэрка. Яно адбівае сонечныя праменні. У фокусе адбівальніка ўмантавана труба, напоўненая фрэонам, які лёгка кіпіць. Адбівальнік улоўлівае сонечныя праменні, якія ператвараюць фрэон у пару. Яна праходзіць праз асобныя апараты і паступае ў ахаладжальныя батарэі, размешчаныя ўнутры дома. (ака)

## Рухомая школа

У Шчэцінскім Старгардзе адкрыта арыгінальную рухомую школу для шафёраў. Мэтай такой школы з'яўляецца навучанне моладзі ў малых мястэчках. Усё абсталяванне і навуковыя дапаможнікі змяшчаюцца на некалькі аўтамабілях. Гэта першы такога тыпу пункт навучання моладзі.

Фота ЦАФ




# Марш міру

Усё прагрэсіўнае чалавецтва выступае супраць амерыканскай агрэсіі ў паўднёва - ўсходняй Азіі. У сталіцах і большых гарадах Заходняй Еўропы адбываліся шматтысячныя «маршы міру». Дэманстранты патрабавалі спыніць вайну ў В'етнаме.

На здымку: фрагмент дэманстрацыі ў Мюнхене ў ФРГ.

Фота ЦАФ

# СКОП'Е

Страшэнна знішчаны ў выніку землетрасення югаслаўскі горад Скоп'е з кожным днём змяняе свой выгляд.

На здымку: на першым плане часовыя домікі, якія былі пастаўлены пасля землетрасення, а ў глыбі — сучасныя гмахі.

Фота ЦАФ



## Ах, макакі-забіякі!

Вадою і шляпаннем ледзь раздзяліла цётка Нюра малпкі! Разлаваліся малыя макакі-забіякі, якім не дазволілі пабіцца ўволю! Адна замарудзіла і яе ўкусілі за палец і вуха. У паліклініцы ЗАА ледзь удалося накласці швы на «баявыя» раны, завязалі мацней лапу. Але толькі выпусцілі — малпка адразу парвала ўсе бінты на кавалачкі. Давялося ізноў лавіць яе. Умудрыліся вымазаць павязку зверху вельмі смярдзючым мазістым лекам. І малпка адразу стала спакайнейшай: калі пусцілі яе, яна не толькі перастала рваць павязку на лапе, але носіць гэту лапу як бы з пашанаю і адварочвае нос. (а-ся)

## Ці ведаеце...

...што цеста на дрожджах не павінна стынуць на блясе, на якой яно пяклося — робіцца тады мяккім і часта набірае паху бляхі.

## Тэлевізія сляпым

На сімпозіуме па тэлебачанню, які адбыўся ў Швейцарыі, адзін з дэлегатаў заявіў, што сляпыя ў недалёкай будучыні змогуць глядзець тэлевізійныя перадачы. Спецыяльнае электроннае прыстасаванне накіруе электрычныя імпульсы непасрэдна ў мозг. (ака)

# Гара Кіліманджара

Пакрытая снягамі гара Кіліманджара, адзін з найвялікшых вулканаў свету, мае вялікую цікавасць для навукі. Геалагічная структура Кіліманджара, прычыны асабліва спрыяльных кліматычных умоў гэтага паўночнага раёна Танганікі, паходжанне снягоў і льдоў, пакрываючых вяршыню гары, — усё гэта падлягае стараннаму вывучэнню.

Яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя такая незвычайная з'ява прыроды, як наяўнасць снегу ў раёне экватара заставалася невядомай. Жыхары Еўропы і Азіі не верылі расказам першых даследчыкаў, якія наведалі Кіліманджара. Цяпер Кіліманджара — ужо не тайна прыроды. Адкрыццё кратэра Кіба дала магчымасць скласці больш або менш поўны малюнак асаблівасцей Кіліманджара.

Цікавая гісторыя паходжання назвы гары. Спачатку меркавалі, што слова «Кіліманджара» прыйшло з мовы племя чаго, якое насяляе гэты раён. Затым рабіліся спробы растлумачыць назву гары іншым шляхам: слова «Кіліманджара» дзялілася на дзве часткі — кіліма і нжара, прычым меркавалі, што «кіліма» на мове суахілі азначае «гара». Гэта не зусім правільна, таму што дакладны пераклад слова «кіліма» будзе «узгорак». Першыя еўрапейцы, якія прыбылі ў гэты раён Афрыкі, лічылі, што «Кіліманджара» азначае або «вялікая гара», або «гара караванаў».

Тлумачэнне слова «Кіліманджара», якое цяпер атрымала найбольшае распаўсюджанне, заснавана на тым, што слова «нжара» на мове племя масаяў азначае «вада». «Гара вады» — найбольш верагоднае значэнне слова «Кіліманджара», таму што на схілах гэтай гары бяруць пачатак усе мясцовыя рэкі.

Першая спроба дасягнуць вяршыні Кіліманджара была зроблена ў 1845 годзе. Аднак толькі ў 1889 годзе яе ўдалося пакарыць. Гара складаецца з трох асноўных вулканаў: Кіба (19.340 футаў), які размешчан у цэнтры, Мавензі (16.890 футаў) на ўсходзе і Шыра (13.140 футаў) на захадзе. Апрача таго, ёсць некалькі менш высокіх вяршынь.

З трох галоўных вяршынь — Кіба самая маляўнічая. Яна пакрыта вечнымі ззяючымі снягамі. Правей узвышаецца Мавензі — чорны, змрочны гмах. Трэцяя вяршыня — Шыра — разбураецца; у яе захаваліся толькі заходнія і паўднёвыя часткі.

Кіліманджара — гэта велізарны горны масіў, пад уплывам якога ў даным раёне Афрыкі склаліся асабліва спрыяльныя кліматычныя і прыродныя ўмовы.

Аляксей Карпюк

# Пушчанская адысея

Раніцой адпраўляемся ў Скрабляцкі лес. На мне лейтэнанцкі мундзір, у камісара сіняя вопратка чыгуначніка. Адзін Сашка ў цывільным. Гарадоцкія паліцаі носяць на правым рукаве павязкі з нямецкай пячаткай і надпісам «Гільфсполіцай». Саша вышэй локця павязаў хустачку, намаляваў нешта вуглём.

Дваццаць чалавек, якіх прыслала Маруся, мы памясцілі зводдаль. Перш чым прыняць у атрад, да гэтых вырашылі прыглядзецца. Усю групу немцы везлі на работу ў Германію, не давезлі, пакінулі ў Беластоку на аэрадроме. Сярод іх знайшоўся нават прапаршчык царскай арміі Смірноў, яго я назначыў камандзірам, даў тры вінтоўкі. Яшчэ расказаў, куды можна хадзіць, куды нельга, і развітаўся. Потым кожны дзень да іх заглядалі. Каб цяпер хто-небудзь і захацеў прадаць, то зрабіць гэта не проста; дзе мы стаім, яны не ведаюць.

Скрабляцкі лес ад Ліпнікаў аддзяляе аўтастрада. Для бяспечнасці ўздоўж асфальту немцы дрэвы высеклі. Выходзім на прафілактычную паласу, набліжаемся да асфальту. У двух напрамках снуюць машыны. Патрулёў не відаць. Спакойна перасякаем шашу.

Ля месца, дзе размяшчаўся лагер, адчуваю нешта няладнае. Лес чамусьці здаецца нібы мёртвы, пусты. Нас агортвае трывога. Чаму не відаць варты?

— Па-пластунску! — шапчу.

159

Асцярожна падпаўзаем да ўзгорка, выглядаем на паляну і нямеем. Там, дзе вогнішча, валяюцца транты паламаныя фанерныя скрынкі, чамаданы, пагнуты алюмініевы посуд, ля сасны — трэскі ад прыкладаў, два ствалы. Сярод гэтага хламу выдзяляюцца сваёй жудаснай белізной тры голыя целы. Устаём, прыглядаемся. Першы ляжыць барадаты дзядзька, за ім — хлопчык гадоў пятнаццаці, дзяўчына.

— А-а, нарэшце з'явіліся! — вылятае з яліп раз'юшаная дзяўчына з абветраным скуластым тварам у лішаях і крычыць на мяне: — Гэта ты, сволач, пакінуў нас адных немцам і загубіў?!

— Саша, супакойся! — просіць камісар. Ён тут ведаў кожнага па імені. — Не мялі глупства, Нікіціна! Раскажы лепш, што здарылася?

— Табе не падабаецца? — ляціць яна на яго.

Косця адступае.

— Не-е, сволач, не вырвешся! Загубіў нашых і думаеш так застанецца? Хоць вочы твае паганыя выдзеру з карэннямі, душагуб ты!

Яна кідаецца да камісаравага твару з пазногцямі. Ашалелую, хапаю ўпол, прашу:

— Супакойцеся, таварыш Нікіціна!

— Мы для вас не людзі! Нас бы вы не прынялі! — вырываецца ў яе. — Мы ішлі, як да сумленных партызан, а вы? Разадзеўся, як на бал-маскарад, для цябе гэта ўсё гульня, а людзі — мёртвыя! Толькі не думай, што іхняя кроў табе абыдзецца так! Ох-ха-ха-ха! — затраслася ў маіх руках ад бяссільнага плачу.

Сапраўды, я намерваўся перадаць жанчын камандзіру з Дубава. Хто паспеў расказаць? Дзеўка мае столькі злосці і энергіі, што цяпер не аддам ні за якую цану! Кладу Нікіціну на мох.

160



Скрабляцкі лес, 1965 г.

Фота: Ул. Паўлючук

161

# У бібліятэках

З 72 тысяч кніжак, якія знаходзяцца ў 17 бібліятэках у грамадах Гайнаўшчыны, гарадской і павятовай бібліятэках у Гайнаўцы, карыстае 9478 чытачоў.

Бібліятэкі Гайнаўшчыны займаюцца не толькі пазычаннем кніжак. Вядуць яны таксама культурна-асветную працу, арганізуюць конкурсы для чытачоў, вечарыны, спатканні з літаратарамі, наладжваюць лекцыі і «згадуй-згадулі». На асаблівае падкрэсленне за культурна-асветную дзейнасць заслугоўваюць бібліятэкі ў Дубічах Царкоўных, Чаромусе, Белавежы, Старым Ляўкове і Новаберазове.

**Ю. Козак**
Гайнаўка

# Багацце паветаў

З бюджэтнай пастановы ВРН у Беластоку вынікае, што ў 1966 годзе на капіталаўкладанні прызначаецца: у Гайнаўскім павеце — 40 млн. зл., у Бельскім павеце — 35,5 млн. зл., у Беластоцкім — 115,8 млн. зл., у Дуброўскім — 22,2 млн. зл., у Сямяціцкім — 23,8 млн. зл. і ў Сакольскім — 33,7 млн. зл.

Як бачым, найбагацейшым паветам у 1966 годзе будзе Беластоцкі павет. Варта пажадаць гаспадарам паветаў, каб гэтыя мільёны залатовак былі поўнасцю выкарыстаны на павелічэнні багацця насельніцтва і дзяржавы. (вр)

# Перадавы солтыс

Вялікая справа, калі солтыс з'яўляецца добрым арганізатарам, клапоціцца пра вёску, пра яе развіццё. Вось да такіх сапраўдных солтысаў можна залічыць Мікалая Тафілюка з Дубіч Царкоўных. Абавязкі свае выконвае вельмі добра. Адносіны яго да аднавяскоўцаў тактоўныя. Ён з'яўляецца і перадавым членам свайго сельгасгуртка, і добрым гаспадаром, і ініцыятарам многіх грамадскіх чынаў у сваёй вёсцы. За сваю добрую працу ён быў узнагароджаны ўладамі на выезд на экскурсію ў Германскую Дэмакратычную Рэспубліку.

**П. Дубовіч**
Дубічы Царкоўныя

# У даліне Арлянкі

Праз Бельшчыну праплывае рэчка Арлянка. У яе даліне знаходзіцца многа паш і сенажацяў, якія былі паўдзікімі, малаўраджайнымі. Сяляне мала мелі сельскагаспадарчых ведаў і матэрыяльных магчымасцей, каб павялічваць іх ураджайнасць.

Пасля вызвалення ў вёску Сабутка прыехалі прадстаўнікі Ваяводскай рады нарадовай з Беластока, каб пераканаць жыхароў аб неабходнасці загаспадаравання сенажацяў. Удалося ім нагаварыць толькі аднаго гаспадара — Яўгеня Хаміцкага. Скарыстаўшы з парад спецыялістаў Яўген Хаміцкі на наступны год з 1-го гектара сенажацяў атрымаў больш як 50 цэнтнераў з аднаго пакоса. За яго прыкладам пайшлі ўсе гаспадары Сабуткі, а пазней і суседніх вёсак. А калі ў Саках арганізавалася сенажатнае аб'яднанне, якое загаспадаравала свае зялёныя ўгоддзі, ураджай сена павялічыўся да 80 цэнтнераў з 1-го гектара. Гэта прычынілася да павелічэння жывёлагадоўлі, да пабольшання продажу малака дзяржаве і, зразумела, да павелічэння даходаў сялян.

**Васіль Кірылюк**
Бельскі павет

## Анастасія Ахрэмюк

У вёсцы Кнаразы ў Бельскім павеце ёсць акушэрскі пункт. Акушэркаю працуе Анастасія Ахрэмюк, якая абслугоўвае вёскі дзвюх грамад: Храбалоў і Пасынак. Сваю адказную працу выконвае вельмі сумленна і таму карыстаецца пашанаю ў вясковым асяроддзі.

**В. К.**
в. Кнаразы

## „Ніва" як школьны дапаможнік

У Ласінскай школе такі ўжо звычай, што ўсе вучні з'яўляюцца падпісчыкамі «Нівы». Апрача таго вучні другога класа падпісваюцца яшчэ на «Свершчык», а трэцяга і чацвёртага на «Пламычэк», пятага на «Свят млодых», а шостага і сёмага на «Пломык» і «Свят млодых».

Усе вучні школы заўсёды чакаюць пятніцы. У гэты дзень пісьманосец прыносіць у школу «Ніву».

У час заняткаў выкарыстоўваюцца матэрыялы з «Нівы» і «Зоркі», чытаюцца вершы, апавяданні.

Вучні чацвёртага класа рыхтуюць зараз сцэнку пад загалоўкам «Мая першая роля» Алтухова. П'еса гэта была надрукавана ў 51 нумары «Зоркі» 1965 года.

**Мікола Ялінік**
в. Навіны

# Расце лес

У грамадзе Пасынкі на Бельшчыне было многа пяскоў, на якіх не маглі расці сельскагаспадарчыя культуры. Таму многія гаспадары на гэтых зямельных няўгоддзях пасадзілі лес. І так, Сяргей Сельвеструк і Янка Іванюк з Зубава залясілі па 2 га. За іх прыкладам пайшло шмат гаспадароў і з суседніх вёсак.

Зараз у грамадзе Пасынкі амаль няма зямельных няўгоддзяў. На іх месцы расце прыгожы лес.

**К. В.**
в. Зубава

# Чытачы пішуць „Ніва" адказвае

(Працяг са стар. 5)

павінны даваць свае машыны.

Калі дапамога дзяржавы дае карысныя рэзультаты і эканамічна занядбаная гаспадарка паспяхова стае на ногі, тады фінансавы аддзел і аддзел скупкі **могуць ануляваць усе падаткавыя і паставачныя залегласці за папярэднія гады.** У тым выпадку знаходзіць сваё прымяненне пастанова Прэзідыума ВРН ад 25 сакавіка м.г. і цыркуляр №11 Міністра спажывецкага промыслу і скупкі ад 31 мая м.г.»

Столькі інжынер Качмарскі. Ад сябе можам дадаць, што калі Ваша гаспадарка, Паважаны Чытач, адпавядае вышэй прыведзеным умовам, Вы можаце старацца, каб яе ўвялі ў спісак гаспадарак эканамічна занядбаных. Трэба напісаць абгрунтаваную заяву і злажыць яе ў прэзідыуме Вашай грамады. Пры кожнай грамадзе існуе спецыяльны грамадскі калектыў, які абавязаны правесці ацэнку стану Вашай гаспадаркі. У састаў гэтага **калектыву** абавязкова ўваходзіць солтыс вёскі, да якой справа адносіцца, і раённы аграном.

Чакаем на наступныя пытанні, на якія не змаглі Вы самі знайсці адказу. На канверце пад адрасам, калі ласка, дапішыце: «Адказ».

**Ваш сябра**

# Райск маладзее

Райск быў знесены з твару зямлі, спалены і заво раны. 149 чалавек немцы расстралялі, а апошніх высялілі. Пасля вызвалення людзі вярнуліся да сваіх мясцін, пачалі будавацца, і пры дапамозе дзяржавы ўваскрэсла вёска. І зараз яна многа прыгажэйшая як была перад знішчэннем. Тут пабудавана вялікая школа і крама, заканчваецца будова святліцы. Нават царкву тут пабудавалі прыгажэйшую, як была ў мінулым. У снежні жыхары Райска купілі 6 тэлевізараў.

**Анатоль Артэмюк**
Райск




**ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!**

Мы з Валодзем знаёмыя ўжо пару месяцаў. Валодзя жыве на вёсцы (мае добрую гаспадарку). Ён сам адзін і мае пажылых бацькоў, таму мо і мусіць жаніцца. Няма каму працаваць, а гаспадарка вялікая. Да таго яшчэ і мама яго хварэе. Я таксама паходжу з вёскі, але жыву ў горадзе, працую ў фабрыцы. Мне нядрэнна. Але мы з Валодзем пастанавілі пажаніцца, і я маю ісці да яго на гаспадарку. Не пераймаюся тым, бо гаспадарка добрая, а ўмела і па-сучаснаму папрацаваць, напэўна буду мець многа лепш чым у горадзе маю. Бацькі Валодзі яшчэ не бачылі мяне і баяцца, што ён прывязе, як яны кажуць, «панюсю» з горада. Запрасілі нас у госці на калядныя святы. Не ведаю, як весці сябе там, хацела б аднак спадабацца бацькам Валодзі. Парай мне Сэрцайка, бо першае наша спатканне многа аднак значыць. Так хацела б, каб маці палюбіла мяне. Чакаю хуткага адказу.

**Галіна**
з Беластока

**Дарагая Галіна!**

Напэўна вельмі важнае, каб спадабацца бацькам Валодзі. Незадоўга ж вы пажэніцеся і будзеце жыць з імі разам. А каб спадабацца бацькам, залежыць толькі ад цябе. Калі заедзеш да іх, дык ветліва прывітайся з маці і бацькам. Будзь вясёлай, размоўнай, толькі талкова. Чуйся як дома, не чакай, аж хворая маці будзе вам падносіць і рыхтаваць усё на стол, а сама запрапануй, што паможаш, а пасля памажы прыбраць. Варта было б на калядныя святы завезці маці і бацьку якінебудзь недарагі падарунак. Будзь заўсёды ветлівай.

Жадаю ўсяго добрага.

**СЭРЦАЙКА**

**З-за яліны выглядае пажылая кабета. Яна складае, як да малітвы, рукі, падае на калені, паўзе да мёртвай дзяўчыны. Змахвае з пажаўцелых грудзей і шыі мурашак, прыкрывае нагату сваёй хусткай, абымае яе галаву і з невыказаным болем цягне:**

**— Ах, Фе-е-енечка, ах, сястры-ычачка, як цяпер без цябе дамоў мне вяртацца, як без цябе жы-ыць...**

**Нельга на гэта глядзець.**

**З кустоў вылазіць Смірноў з вінтоўкай. Яго і так доўгая і хілая фігура зношанага пяцідзесяцігадовага чалавека цяпер зусім згорбленая, вопратка вісіць, нібы на пудзіле. Прапаршчык няўпэўнена прыкладвае да казырка пальцы, грэбае ботамі:**

**— Таварыш камандзір атрада...**

**— Ды перастань крыўляцца! — абрывае яго Косця. — Кажы адразу, як было!**

**— Не стала чаго есці. Звечара павёў іх у Каўняны. Вартаўнікі пачалі біць у жалеза. Потым сталі страляць трасіруючымі. Я хацеў мірна, але вось гэтыя, — паказвае на кучаравага бойкага хлопца, — сталі адстрэльвацца...**

**— Мо трэба было цярпець? — гыркае той.**

**— ...У крайніх хатах набралі капусты, хлеба, бульбы і вярнуліся на світанні...**

**— А на лузе за вёскай пакінулі на траве росны след! — устаўляе хлопец. — Яму казалі дарогай ісці, а ён — напрасткі!...**

162

**— Знайшлі каго назначаць старшым! — ускоквае Нікіціна. — Ён нават шырынкі сабе не зашпіліць!**

**Смірноў вінавата папраўляе нагавіцы.**

**— Яму абы паўлітра, больш і трава не расці!**

**Павылазілі з кустоў і астатнія.**

**Што праўда, то праўда, з цэлай кампаніі я выбраў самага няўдалага за камандзіра. Мяне падкупіла яго званне. У партызанскіх справах званне мала значыць.**

**— ...Паснедалі, пакладаліся адпачываць. Паставіў яго на варту. Ён, — Смірноў паказвае на труп хлопчыка, як галоўнага віноўніка, — заснуў. Гэтых дваіх пастралялі, калі ўцякалі. Звалаклі сюды ўжо потым. Дзве вінтоўкі пабілі, ляжаць вунь. Толькі я не кінуў сваёй...**

**— Маеш чым хваліцца!**

**У мяне такая злосць, што хочацца недарэку-прапаршчыка разадраць.**

**— Дзіця раніцой паслаў на пост? Не мог сам пастаяць, дубіна бязмозгая? — падлятаю да яго з кулакамі.**

**Ён нават не ўхіляецца. Косця мяне стрымлівае. Камісар мае рацыю, справа не толькі ў Смірнове. Наслухаўшыся фальклорных легенд пра партызан, гэтыя людзі ўяўлення не маюць, як у лесе складана, нават кавалак хлеба дастаецца не проста. З Беластока прыперліся з чамаданамі, святочнымі касцюмамі і сукенкамі, адпрасаванай бялізнай, быццам спадзяваліся, што тут ім выдзелім пакоі ў інтэрнаце з водаправодам, электрыкай.**

**(Працяг будзе)**

163




**Праграма на 11—16.І.1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Przygody Tolka Borówki" (radz.), 11—12. „Oskarżony" (czeski), 13—14. „Samson" (polski), 15—16.

**Кляшчэлі**

„Kto jest bez winy" (czeski), 11—12. „Nowy Gilgamesz", (węgierski), 13—14. „Jest taki chłopak" (radz.), 15—16.

**Дубіны**

„Człowiek zza biurka" (włoski), „Judex, albo zbrodnia ukarana" (franc.), 13—16.

**Нарва**

„Prawo i pięść" (polski), 12—16.

**Нараўка**

„Szczęściarz Antoni" (polski), „Człowiek, który wątpi" (radziecki), 12—16.

**Чыжы**

„Skowronek" (węgierski), 12—16.

**Дубічы Царкоўныя**

„Zakazane piosenki" (polski), 12—16.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Kapo" (włoski), 12—16.

**Орля**

„Romeo, Julia i ciemność" (czeski), „Piąty wydział" (czeski), 12—16.

**Райск**

„Biała karawana" (radz.), 12—16.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Ameryka, Ameryka" (USA), „Człowiek z przeszłością" (radziecki), 12—16.

**Міхалова**

„Ktoś obok ciebie" (NRD), 11 12. „Kosmos wzywa" (radz.), 13—14. „Szalone wakacje" (jugosłowiański), 15—16.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Kapitan" (bułg.), 11—12. „Za białym murem" (czeski), 13—14. „Profesorek" (franc.), 15—16.

**Мілейчыцы**

„Maja Plisiecka tańczy" (radziecki), 11—12. „Chłopiec z dwóch światów" (duński), 13—14. „Droga przez cmentarz" (radz.), 15—16.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Witajcie, wstęp wzbroniony" (radz.), 11—12. „Casanova znad Dunaju" (bułg.), 13—14. „Ambicja" (radz.), 15—16.

**Шудзялава**

„Spotkanie ze szpiegiem" (polski), „Mrok za dnia" (węg.), 12—16.

**Сідра**

„SOS na Pacyfiku" (angl.), 11—12. „Cena odwagi" (bułg.), 13—14. „Noc przedślubna" (angl.), 15—16.

**Сухаволя**

„Człowiek ze słomy" (włoski), „Urocza gospodyni" (USA), 12—16.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Pięciu" (polski), „Alba Regia" (węgierski), 12—16.

**Ліпск**

„Nieznajomy z pociągu" (USA), 15—16.




Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie —14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok i Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458 Bltk C-3.

 




# У ГОРАДЗЕ

Доўга выбіраўся ў горад Хведар, пакуль пастанавіў ехаць.

Сіні аўтобус правёз Хведара па гарадскіх вуліцах і спыніўся каля станцыі ПКС. Дзверы ў аўтобусе загарадзілі кантралёры, дамагаючыся ад усіх паказваць білеты.

— Як уехала ў места, думала, што білет ужо непатрэбен і выкінула яго, — гаварыла кантралёру якаясьці баба.

— Плаціце сотню кары, — дамагаўся кантралёр.

— Я сама не варта сотні, — тлумачылася баба.

Выбраўшыся з аўтобуса Хведар падумаў: «Усё даражэе, а бабы патанелі».

У доме таваровым Хведар налез на вялізную горбу народу, бо якраз прадавалі модныя «казачкі» — зраблю жонцы падарунак, — рашыў Хведар і давай укручвацца ў людскую цясніну. Дабраўшыся шчасліва да прылаўка, купіў «казачкі» і шчасліва выбраўся цэлы і здаровы назад. З цікавасці адкрыў скрыначку пабачыць тыя «казачкі» і заўважыў на адным з іх глыбокую дзірку. — «Добра, што адразу заўважыў» — уцешыўся Хведар і пайшоў мяняць. Аднак стройная прадаўшчыца доўга не верыла Хведару, што ён заплаціў грошы за гэту пару, і доўга не хацела мяняць.

Змарыў Хведара голад і зайшоў ён у рэстаран паесці — талерку стравы, катлету. Кельнер паклаў перад ім рахунак — 79 зл. 50 гр.

— Так дарага! — перапалохаўся Хведар.

Кельнер адказаў:

— Нармальна, з чвэрткаю.

— Я не піў чвэрткі! — апраўдваўся Хведар

— Вы жартуеце, — казаў кельнер. — Чвэртку выпілі і кажаце, што не пілі.

— Я не заказваў чвэрткі!

— А што заказвалі?

— Страву і катлету.

— Ага, страва і катлета, значыць, я памыліўся, — сказаў кельнер і паклаў перад Хведарам новы рахунак — 49 зл. 50 гр.

— Вы кепска падлічылі!

— А што вы елі? — зноў дапытваўся кельнер і строга жмурыў вочы.

— Талерку стравы і катлету з бульбаю.

— Выбачайце, памыліўся, — зноў прызнаўся кельнер і выпісаў яшчэ новы рахунак — 38 зл.

— Добра падлічылі? — пытаў Хведар і глядзеў на рахунак.

— Як у аптэцы, — адказаў кельнер. — Страву і брызоль.

— Страву і катлету, — паправіў яго Хведар.

— Выбачайце за памылку, — зноў перапрасіў кельнер і выпісаў новы рахунак — 29 зл. 50 гр.

Заплаціў Хведар. Ішоў назад да аўтобуса, лічыў цэны і далічыўся, што пераплаціў кельнеру пятнаццаць злотых. Хведар ішоў да аўтобуса хутка, як бы баючыся, каб на хаду не адрэзалі яму падэшваў на ботах.

*Дзядзька Лявон*

### ДВА РАШЭННІ

— Я вырашыла, — гаворыць першая сяброўка — датуль не выходзіць замуж, пакуль не буду мець дваццаці пяці год.

— А я вырашыла, — гаворыць другая сяброўка, — што датуль не буду мець дваццаці пяці год, пакуль не выйду замуж.

### ПЕРАШКОДЗІЎ

Аднойчы ішоў я з сябрам. Раптам ён так нахіліўся, што я ледзь паспеў яго падхапіць. Каб не схапіў я яго, ён упаў бы і разбіў бы сабе лоб. А ён мне кажа:

— Хто цябе прасіў? Ты перашкодзіў мне прывітацца з вядомым чалавекам.

### НЕ ЎМЕЕ

Першакласнік, вярнуўшыся са школы, заявіў:

— Я ў школу не пайду...

— Чаму? — спытала бабуля.

— Бо там прымушаюць пісаць і чытаць, а я не ўмею, а размаўляць я ўмею, дык на ўроках не дазваляюць.

### ТОЛЬКІ ЗІМОЮ

— У вас у святліцы заўсёды так холадна? — спыталі загадчыка святліцы.

— Не. Толькі зімою, — адказаў той.

### НАЙЛЕПШЫЯ ЛЯКАРСТВЫ

— Пане доктар, што рабіць, каб у майго мужа хоць крыху паправіліся нервы?

— Вы павінны абое выехаць!

— Куды?

— У супрацьлеглыя бакі.

### КАЛЯ КАСЫ КІНО

Адна бабуля падыйшла да акенца касы кіно і пытае:

— Што ў вас?

— «Чорныя акуляры».

— А іншых няма?

### НА ЭКЗАМЕНЕ

Экзаменатар: — Магчыма, вас бянтэжыць маё пытанне?

Студэнт: — Не, мяне бянтэжыць адказ.

### ДРЭННЫЯ КУРЫ

— Чаму ты, суседка, сваіх курэй рэжаш?

— А што за карысць з іх? Колькі ні ганю на суседчыны пасевы, усё роўна ў свой агарод вяртаюцца.

### ДАКЛАДНЫ АДКАЗ

— Колькі вам засталося да пенсіі?

— Дзве даведкі.

### СУСТРЭЧА

Нехта сустрэў на вуліцы сябра, галава якога была забінтавана:

— Што з табой?

— Разумееш, я сутыкнуўся з лятаючым блюдцам.

— Не можа быць! Дзе ж?

— Ды ў сябе дома.



Крытыка — гэта нож з двума лязамі, а самакрытыка — з адным.

## УСЯЧЫНА



Усё людскае нам не чужое

Кур'ёзы

### БЛАНДЗІНКІ

Вялікае хваляванне ахапіла бландзінак гарадка Прэнсвіля ў штаце Арэгон (ЗША), калі яны раптам выявілі, што іх валасы пазелянелі. Як высветлілася, такая метамарфоза наступіла ад дзеяння дэзінфіцыруючага сродка, раствoранага ў вадзе гарадскога купальнага басейна.

Песні па заяўках

Па просьбе **Ірэны Кахановіч** з Бялявіч, **Уладзіміра Бочка** са Страшава, **Станіславы Дамброўскай** з Бялявіч, **Ніны Парэмбскай** са Страшава, **Міры Кастэчык** з Меляшкоў, **Чытача** з Грэдалёў, **Валі Грыц** з Цісоўкі, **Ані Траф'мюк** з Мокрага, **Уладзіміра Ручая** з Тапчыкалаў, **Тоська Дзмітрука** з Выгану, **Валі Радзівонюк** і **Валі Стэпанюк** з Трасцянкі, **Святланы Мельнічэк** і **Люды Гакала** з Мастаўлян змяшчаем польскую песню п. з.

### ПАДВОДНЫЯ ТЫПЫ

**Водзіць плаўніка**
**мянтуз —**
**Таўстапузы**
**важны туз.**
**Атлусцеламу тузу**
**Напляваць**
**на драбязу.**

### РАК

**Пад карчамі**
**лазіць рак —**
**Забіяка з забіяк,**
**Іншым**
**косці трушчыць рад,**
**Небяспека —**
**рак назад.**

### УЮН

**Быццам вуж,**
**уюн віецца,**
**Добра**
**гнуткаму**
**жывецца,**
**Бо праз вузк'я хады**
**Ён праціснецца**
**заўжды.**

### КАРАСЬ

**Прадпрыемл'вы**
**карась**
**Без агіды**
**лезе ў гразь.**
**Ён у мутнае вадзе**
**Жыць умее**
**як нідзе.**

### ВЕРХАВОДКА

**Верхаводка**
**над ракой**
**Зазіхціць падчас**
**луской,**
**Ля паверхні плавае,**
**Ганарыцца**
**славаю.**

### ЯЗЬ

**Плотка хвосцікам вільне,**
**Серабром засвеціцца —**
**Язь**
**адразу ўглыб нырне,**
**А затым**
**агледзіцца.**

### ЛІНЬ

**Не вылазячы з глыбінь,**
**Вэк жыве**
**лянівы лінь.**
**Рэк імклівых**
**быстрыня**
**Не прыцягвае**
**ліня.**

**ПЯТРО СУШКО**

— Глянь, Валодзька, у газеце пішуць, што з нашага заалагічнага агарода ўцякла малпа!...

— Ён так схаваўся, што мы яго другую гадзіну знайсці не можам.

## Dowidzenia, Profesorze

*Choć nam dzisiaj więcej wolno,*
*bo matura już w kieszeni,*
*chociaż cieszy nas świadectwo dojrzałości,*
*tęskno nam za gwarem szkolnym,*
*i to chyba się nie zmieni,*
*będzie zawsze towarzyszem dni „wolności”.*
*Profesorze, póki jesteś blisko nas,* } *bis*
*profesorze, wysłuchaj, jeszcze czas!*

*Tą piosenką cię żegnamy, profesorze....*
*nasze myśli będą zawsze z tobą szły.*
*Tą piosenką przepraszamy, profesorze,*
*za kłopoty przepraszamy i za łzy.*
*To jest nasze, profesorze, pożegnanie,*
*a niełatwo nam się rozstać — co tu kryć?*
*Przyrzekamy rozwiązywać twe zadanie:*
*jak uczciwie i mądrze żyć.*

*Dziś żegnamy szkolne mury,*
*naszych dobrych profesorów,*
*przez nas wkradł się siwy włos na wasze skronie.*
*Dziękujemy za matury,*
*za wykucie trudnych wzorów.*
*Już nie dzieci, lecz dojrzałe, stare konie.*
*Profesorze, póki jesteś blisko nas,* } *bis*
*profesorze, wysłuchaj, jeszcze czas!*

*Tą piosenką cię żegnamy profesorze....*



## Думкі ўсякі і апалоніка

**Людзі падобныя да лісткоў, якія зрывае і разносіць па свеце вецер.**

✲

**У дурнога не навучышся, але і з прамудрэлым можаш збаранець.**

✲

**Для кожнай велічыні павінен быць паложаны адпаведні фундамент.**

✲

**Ніколі не хваліся сілаю, бо хвароба збівае з ног наймацнейшых асілкаў.**

✲

**Не аглядайся, бо свет ідзе наперад і ты можаш быць растаптаны.**

 